***КАРЭЛІЦКАЯ РАЁННАЯ ГАЗЕТА***

# Полымя

Газета выдаецца з 13 лютага 1944 года

№ 1 (6477) СУБОТА, 4 студзеня 1997 года. *Кошт падпіскі на адзін месяц 1997 года -- 8 тысяч рублёў.*

# *КАЛЯДЫ -- ГЭТА МІР І ЛЮБОЎ*

***Сёння наш субяседнік — святар, айцец Аляксей, настаяцель Свята-Петрапаўлаўскай царквы гарпасёлка, благачынны Карэліцкай акругі (свецкае імя — Аляксей Міранавіч). Нарадзіўся ў Столінскім раёне. У свой час закончыў Баранавіцкі тэхнікум лёгкай прамысловасці, служыў у радах СА, закончыў Маскоўскую Духоўную Семінарыю. З 1989 года служыць на царкоўных прыходах у Карэліцкім раёне. Няпоўныя тры гады быў настаяцелем Свята-Троіцкай царквы, што ў г. п. Мір, а ўжо затым прызначаны настаяцелем Свята-Петрапаўлаўскай царквы райцэнтра.***

*— Айцец Аляксей, давайце згадаем, ці ўсе прыходы на тэрыторыі раёна сёння маюць свае храмы пасля атэістычнага смерча, які доўга «кружыў» над вялікадзяржаўным Саюзам?*

— Працэс вяртання храмаў і іх адраджэння да жыцця залежыць перш за ўсё ад прыхаджан і іх святароў, якія абслугоўваюць гэтую тэрыторыю. Неабходна рэстаўрыраваць цэрквы ў вёсках Беражна, у Вялікай Слабадзе, Беразаўцы. Па-ранейшаму ў разбураным стане царква ў Райцы і невялікая часоўня ў Загор'і, што непадалёку Турца. У незайздросным стане разбурэння знаходзіцца зараз і храм-усыпальніца, які месціцца на тэрыторыі нацыянальнага парка «Мірскі замак». Ён як і ўвесь комплекс замка перададзены Міністэрству культуры рэспублікі. Яны і павінны весці тут рэстаўрацыйныя работы. У свой час мы хадайнічалі аб яго перадачы нам, але беспаспяхова...

*— Няверуючых людзей няма і дзверы ў Царкву адчынены для ўсіх, але сярод прыхаджан пераважна людзі старэйшага і сярэдняга пакаленняў. Дзе ж моладзь?..*

— У першыя гады пасля пануючага атэізму ў грамадстве людзі ішлі ў храм больш ахвотна. Але зараз сярод прыхаджан людзей сярэдняга ўзросту і моладзі стала больш. Гэта ўжо прыемна. Галоўнае, каб больш ішлі ў царкву дзеці. Бо Царква — гэта наша гісторыя, наша Бацькаўшчына, гэта традыцыі народа, што праз стагоддзі да нас данесла старэйшае пакаленне. Вось гэтыя бабулі, якія пастаянна наведваюць царкву і не здраджвалі ёй нават у гады ліхалеццяў, пануючага атэізму. Часткова бачу праблему ў тым, што моладзь, калі і хацела б зайсці, але не можа пераадолець у сабе нейкі страх выглядаць «белай варонай», бо не ведае як сябе паводзіць у храме, не ведае малітваў. Але гэта не перашкода. Не ведаеш — спытай і табе падкажуць. Бо вера ў Бога — гэта храм душы нашай... Як ні прыкра, але даводзіцца сцвярджаць аб духоўным заняпадзе, падзенні маральнасці ўвогуле ў грамадстве. Таму неабходна абудзіць маральнасць перш за ўсё ў чалавеку. Зараз і надыйшоў час пакаяння, разумення сваіх памылак. Хацелася б, каб людзі хоць зрэшты, але ўспаміналі пра Бога ў малітвах, запалілі свечку і ўжо гэтым абагацілі сябе духоўна. Каб ля чалавека з'явілася аура, інакш кажучы, станоўчая сіла ці Божая благадаць. Мы атрымліваем яе тады больш, калі анёл чалавека набліжаецца да нас. Ён набліжаецца тады, калі мы каемся ў здзейсненых намі грахах, гэтым самым ачышчаем душу... І гэтая жыватворчая сіла ахоўвае чалавека, а калі гаварыць у агульным, то чым больш веруючых людзей, чым больш людзей мае зносіны з Богам, тым больш гэтай жыватворчай сілы і грамадства становіцца больш моцным і духоўна, і фізічна, а ў рэшце і матэрыяльна. Таму, каб уратавацца ад маральнага крызісу, неабходна пакаяцца і ўсвядоміць, што жыццё без Бога, без агульначалавечых каштоўнасцей немагчыма... Царква ўзвышае праз малітвы сваіх вернікаў і набліжае іх да Бога.

*— Шмат дзе ў людных месцах Карэліч былі развешаны аб'явы аб наборы дзяцей у нядзельную школу пры мясцовай царкве...*

— На жаль, ніхто з дзяцей не прыйшоў, не праявілі клопат тут і старэйшыя — бацькі. Гэта, як нішто, яскрава сведчыць аб маральным крызісе ў сям'і, грамадстве. Толькі ў цесным супрацоўніцтве са школай, сям'ёй можна нейкім чынам кампенсаваць неспрыяльны грамадскі ўплыў на моладзь, які зрэшты павялічваецца. Бо, акрамя праваслаўнай і каталіцкай канфесій, у раён трапляюць розныя сектанты і іх літаратура, якія праводзяць сваю вузкаэгаістычную палітыку, скіраваную супраць чалавека і яго душы...

Сёння, як ніколі, мы павінны ісці ў школу, не дзеля прапаведзі, а хаця б для агульнага азнаямлення з царкоўнымі канонамі... Добрыя адносіны ў нас складваюцца з педкалектывам сярэдняй школы N 1 г. п. Карэлічы. Быў бы рады прыйсці ў любую школу, асабліва на класную гадзіну...

*— Прыкладна дзесьці на Вялікдзень Вы з групай паломнікаў наведалі святую святых — Іерасулім, пакланіліся Гробу Гасподняму. Хацелася б, каб Вы падзяліліся сваімі ўражаннямі...*

— У складзе групы з 9 чалавек ад Беларускай Праваслаўнай Царквы мы былі паломнікамі на Святой зямлі. Першае ўражанне — гэта тое, што можна ўбачыць, сэрцам дакрануцца і адчуць тыя святыя мясціны, аб якіх мы столькі марылі і шмат чытаем у Біблії. Бачыш усю гэтую гісторыю, што вучыў у семінарыі і чытаеш у святых кнігах. Самае важнае, што можна паехаць памаліцца і пакланіцца ўсім гэтым святым мясцінам. Былі мы і ля Гроба Гасподняга і на Галгофе. Былі і там, дзе Ён нарадзіўся і дзе сатварыў першы цуд, і дзе Яму здрадзілі. Пабывалі і там, дзе былі апосталы. Адным словам, наведалі ўсе мясціны Збавіцеля. І яшчэ, што хацелася б адзначыць — два разы служыў і атрымаў прычасце ў Гроба Гасподняга. Для царквы прывёз з сабой часцінку мамврыйскага дуба, крупіцу з Саракадзённай гары і зямлю ад мамврыйскага дуба, з якой згодна сцвярджэння старажытных хрысціян і быў створаны чалавек...

*— Айцец Аляксей, што Вы хацелі б пажадаць вернікам...*

— Напярэдадні свята Нараджэння Хрыстова малітоўна *жадаю хрысціянскай моцы веры, здароўя, міру кожнаму дому і сям'і, шчасця і дабрабыту. Даруем адзін аднаму грахі і крыўды, як вучыў нас дараваць іх Гасподзь. «... Святло Розуму зазззяла свету ў Раджастве Хрыстовым. Народжаны Бог Сын засведчыў Сваім зямным жыццём, што чалавек створаны паводле Яго вобраза і падабенства. Кожны з нас паклікаецца да жыцця толькі дзеля таго, каб адкрыць у сабе Вобраз Божы і захаваць яго беззаганным да апошняга ўздыху. Гэта і ёсць подзвіг, дасяжны праз веру, справы любові і міласэрнасці...»* Бо Каляды -- гэта перш за ўсё мір і любоў...

Гутарку вёў
П. ЖЭБРАК.

## ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ

## У Мінск, на ёлку

Не на адну, а цэлых дзве сталічныя навагоднія ёлкі трапілі рабяты з Гродзенскага, Лідскага, Навагрудскага і Карэліцкага раёнаў, якіх сабраў савет аб'яднаных прафсаюзаў Гродзенскай вобласці на гэтае свята. Сярод тых, каму пашчасціла сустракаць Новы год у сталіцы, — пераможцы разнастайных конкурсаў і алімпіяд, сіроты, дзеці з маламаёмных сем'яў.

З нашага раёна ў Мінску пабывалі першакласніца Насця Федасеева з Ярэміцкай школы, трэцякласніца Ларыса Гогоддзе з Міра, вучаніца другога класа Жухавіцкай школы Таня Крупко, шасцікласнікі Аляксандр Бузюк з Карэліцкай СШ N 2, Ірына Камароўская з першай школы райцэнтра, Сяргей Драздоў з гэтай жа школы, Максім Бусько з Турца, Таня Есьман з Краснага, Вольга Сянюта з Лук, Наталля Свірыд з Некрашэвіцкай базавай школы.

Спачатку рабяты пабывалі на навагодняй ёлцы ў Ждановічах, дзе яны жылі, а затым у Палацы прафсаюзаў. Дзецям была прадстаўлена цікавая святочная і культурна-пазнавальныя праграмы.

## Для дзяцей-сірот і інвалідаў

Актыўна адгукнуліся на заклік аддзела адукацыі райвыканкама аб правядзенні дабрачыннай навагодняй ёлкі для дзяцей-сірот і інвалідаў работнікі раённага вузла электычнай сувязі. Кожны з працуючых выдзеліў з атрыманай прэміі на правядзенне гэтага мерапрыемства па 50 тысяч рублёў. Усяго сабрана і перададзена рабятам 4 мільёны рублёў.

## І тона збожжа ў падарунак

Анатолія Васільевіча Васільева ведаюць у калгасе імя Чарняхоўскага, як выдатнага механізатара. Гэта даказаў ён і ў абласным спаборніцтве аратых, дзе заняў на ўздыме зябліва другое месца. Усяго за год на яго рахунку 981 гектар узаранай глебы, з якіх 453 -- на зябліва. Акрамя таго, А. В. Васільеў дабіўся высокай выпрацоўкі на падборы зялёнай масы комплексам Е-281.

За дасягнутыя поспехі механізатару выдзелена амаль тона збожжа бясплатна.

## Выстава самадзейнага мастака

У чытальнай зале ЦРБ арганізавана выстава работ самадзейнага мастака М. С. Чачоткі з Вялікай Слабады. У экспазіцыі выставы 35 палотнаў жывапісу, на якіх пазнаеш славутыя карэліцкія краявіды, мясціны, звязаныя з Мірам, возерам Свіцязь. Выстава атрымала добрыя водгукі наведвальнікаў, аматараў народнай творчасці.

(Па паведамленнях
пазаштатных аўтараў).

## *Прыміце віншаванні з Калядамі!*

***Паважаныя медыкі раёна!***

Мы стаім на парозе аднаго з самых вялікіх свят Праваслаўя -- Нараджэння Хрыстова.

Няхай кожнаму з вас гэта свята прынясе душэўную раўнавагу, дабрабыт, добрыя надзеі і радасць ад кожнага пражытага дня.

Дзякуем усім вам за плён нястомных працавітых рук.

**Адміністрацыя і прафкам
тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання.**

# ПРАБЛЕМА ЗАСТАЕЦЦА АКТУАЛЬНАЙ

Пастаянная камісія раённага Савета дэпутатаў па сельскай гаспадарцы, харчаванню, экалогіі і кантролю за выкарыстаннем зямель разгледзела на сваім пасяджэнні пытанне «Аб рабоце раённай станцыі па барацьбе з захворваннямі жывёлы па прадухіленню туберкулёзу і лейкозу жывёлы».

У інфармацыі, якую зрабіў галоўны ветэрынарны ўрач раёна Л. В. Карповіч, адзначалася, што становішча ў гэтых пытаннях у раёне застаецца складаным. Нягледзячы на вялікую колькасць праводзімых райветлабараторыяй і райветстанцыяй дыягнастычных даследаванняў, па-ранейшаму вялікая колькасць жывёлы станоўча рэагуе на гэтыя захворванні.

Калі прааналізаваць становішча па лейкозу, то асноўнымі прычынамі гэтага захворвання жывёлы з'яўляюцца: адсутнасць належнага зоатэхнічнага ўліку ў гаспадарках; недахоп цялушак для замены РІД-станоўчых жывёлін; пагрэшнасці зоаветспецыялістаў пры выкананні вакцынацый, апрацовак і г. д.

На пасяджэнні адзначалася, што лепшых вынікаў па ліквідацыі лейкозу дасягнулі ў племзаводзе «Карэлічы», калгасах «Варонча», «Ленінскі шлях», «Савецкая Беларусь», дзе выдзяляецца не больш як 1% хворых жывёлін.

Горш працуюць у гэтым напрамку ў калгасах імя Чарняхоўскага, імя Царука, імя Калініна, «Сцяг перамогі». У калгасе імя Чарняхоўскага, напрыклад, па гэтай прычыне праўленне гаспадаркі выслабаніла ад займаемых пасад галоўнага ветурача і галоўнага заатэхніка, а для выпраўлення становішча заключаны дагавор з вучонымі на правядзенне адпаведных даследаванняў і выпрацоўкі канкрэтных рэкамендацый. Вырашана пытанне пастэрызацыі адгону і размяшчэння хворай і здаровай жывёлы на асобных фермах. Наведзены належны зоатэхнічны ўлік.

Дэпутаты прыйшлі да высновы, што там, дзе кіраўнікі гаспадарак добра ўсведамляюць важнасць праблемы, там прафілактыка туберкулёзу і ліквідацыя лейкозу знаходзіцца на належным узроўні.

Як станоўчае, адзначаўся і такі факт, што сёння не ставіцца пытанне аб замене хворай на лейкоз або рэагуючай на туберкулёз жывёлы ў прыватным сектары.

Што датычыць туберкулёзу, то кантрольны забой і лабараторныя даследаванні раённай і абласной ветлабараторый, Беларускага навукова-даследчага інстытута паказалі, што ўзбуджальніка туберкулёзу ў дойным статку няма. Аднак, недасканаласць інструкцый, адмена планавых даследаванняў на туберкулёз буйной рагатай жывёлы на адкорме і маладнянку не дазваляюць быць упэўненымі, што яго няма.

Улічваючы тое, што ў раёне вялікая колькасць асоб, хворая актыўнай формай туберкулёзу і перанёсшая гэту хваробу, а таксама той факт, што ў недалёкім мінулым туберкулёз буйной рагатай жывёлы рэгістраваўся практычна ў кожнай гаспадарцы, пакідаць без увагі гэту інфекцыю нельга. Нават і па той прычыне, што гаспадаркі раёна адчуваюць вялікія фінансавыя цяжкасці.

Камісія прыняла інфармацыю да ведама і рэкамендавала прадаўжаць барацьбу з захворваннямі жывёлы і прафілактычную работу больш настойліва і мэтанакіравана.

# САЦЫЯЛЬНЫ ПЕДАГОГ, ХТО ЁН?

***З 1 верасня 1996 года ў школах раёна пачалі працаваць 17 сацыяльных педагогаў. Аб іх ролі ў школьным жыцці, аб тым, якую работу яны вядуць, мы гаварылі з сацыяльным педагогам Карэліцкай СШ N 1 Вольгай Міхайлаўнай ЯРОЦКАЙ.***

*— Вольга Міхайлаўна, ужо не першы год працуе ў школе псіхолаг, а зараз яшчэ і сацыяльны педагог. Чым выклікана гэта новаўвядзенне, патрабаваннем часу ці нечым іншым?*

-- У першую чаргу, гэта патрабаванне часу. Цяпер шмат гаворкі вядзецца наконт Закона РБ «Аб правах дзіцяці». Асноўная роля ў яго выкананні, безумоўна, адводзіцца школе. І, адпаведна, работа сацыяльнага педагога павінна быць накіравана на абарону правоў дзіцяці. Але сацыяльны педагог працуе не толькі з дзецьмі, а і з настаўнікамі, і бацькамі. Увогуле, ён павінен сачыць за тым, каб былі створаны камфортныя ўмовы навучання, выхавання, быту дзіцяці.

Асноўнае патрабаванне Закона «Аб правах дзіцяці» — падрыхтоўка рабят да самастойнага жыцця ў грамадстве. Таму сацыяльны педагог павінен імкнуцца абагаціць падлеткаў неабходнымі для існавання ў грамадстве і сям'і ведамі, уменнямі і навыкамі. Яго работа павінна садзейнічаць развіццю прыроднага патэнцыялу дзіцяці, яго схільнасцяў і здольнасцяў. Калі назіраюцца з'явы, якія негатыўна ўздзейнічаюць на самаадчуванне падлетка, сталі перашкодай у вучобе, наведванні ўрокаў, узаемаадносін з аднакласнікамі, то сацыяльны педагог знаходзіць прычыны такіх негатыўных з'яў і працуе над іх ухіленнем.

*-- Якую дапамогу аказвае сацыяльны педагог настаўнікам і бацькам?*

— Ён дае кансультацыі педагогам, бацькам з мэтай дапамагчы лепш зразумець дзіця. Інфармуе і разам з настаўнікамі абмяркоўвае праблемы канкрэтнага дзіцяці, стан яго здароўя, кола інтарэсаў, схільнасцяў, умоў сямейнага жыцця і выхавання. Такім чынам, без увагі сацыяльнага педагога не застаюцца многія фактары: матэрыяльныя, бытавыя, духоўныя, псіхалагічныя, выхаваўчыя. Значная работа вядзецца з канфліктнымі сем'ямі, сем'ямі, якім патрэбна сацыяльная дапамога і падтрымка, мнагадзетнымі. Галоўнае -- зрабіць сваімі саюзнікамі бацькоў і педагогаў, тады справы пойдуць лепш.

*— Вольга Міхайлаўна, вы ўвогуле абмежавалі кола сваёй работы, а якія канкрэтныя справы варта вызначыць?*

— Калі гаварыць больш канкрэтна, то важнейшы напрамак дзейнасці — работа з дзецьмі-сіротамі, інвалідамі, так званымі «цяжкімі» дзецьмі. Такая работа патрабуе толькі індывідуальнага падыходу.

У нашай школе налічваецца 7 дзяцей-сірот, 5 дзяцей-інвалідаў. Яны патрабуюць асаблівай увагі. Пры гэтым школа турбуецца аб іх матэрыяльным і сацыяльным забеспячэнні, жыццяўладкаванні. Матэрыяльная дапамога дзецямсіротам непасрэдна з бюджэту аказваецца значная. А сама школа дабілася таго, што яны атрымалі права на бясплатны праезд у прыгарадным транспарце і на бясплатнае наведванне лазні.

Што датычыць дзяцей-інвалідаў, то траіх з іх настаўнікі вучаць на даму. Сем'і, у якіх выхоўваюцца дзеці-інваліды, знаходзяцца пад маім пастаянным кантролем. Аналізуюцца ўмовы іх жыцця, выяўляюцца праблемы, якія хвалююць гэтых дзяцей і іх сем'і. Кожны год спонсары выдзяляюць сродкі на навагоднія падарункі гэтай катэгорыі рабят. Пасільная дапамога аказваецца ім з тых рэчаў, якія прыносяць нам людзі. Дапамогу рэчамі атрымліваюць і малазабяспечаныя сем'і. Безумоўна, хацелася б аказаць акрамя такой падтрымкі і матэрыяльную дапамогу, але справа гэта вельмі праблематычная па прычыне фінансавай беднасці.

Карыстаючыся магчымасцю, хачу выказаць шчырую падзяку ўсім тым, хто пераадольваючы цяжкасці, памятае пра клопаты школы і вучняў, і як можа, матэрыяльна падтрымлівае нас. Гэта такія прадпрыемствы, як масларобчы завод, райаграпрамтэхніка, райбыткамбінат. Асабліва хочацца вызначыць дапамогу з боку кіраўніцтва ДРБУ-158 і АТП N 8. Дзякуючы ім, вучні 6 «Б» класа бясплатна з'ездзілі ў цырк.

*— Мы ведаем, што асаблівай увагі патрабуюць неспрыяльныя сем'і. Якая работа з імі?*

— Звычайна ў такіх сем'ях выхоўваюцца так званыя «цяжкія» дзеці. У школе на ўліку знаходзяцца трое такіх рабят. Яны патрабуюць пастаяннага кантролю і ўвагі. Трэба сачыць за наведваннем імі ўрокаў, іх вучобай, умовамі пражывання. Гэтым дзецям трэба моцная маральная падтрымка. І тут вялікую дапамогу аказвае дырэктар школы Вячаслаў Іванавіч Апалонік. Пры рабоце з «цяжкімі» дзецьмі працуем у цеснай сувязі з настаўнікамі школы, асабліва з класнымі кіраўнікамі. У гэтай справе заўсёды можна спадзявацца на падтрымку настаўнікаў: З. А. Балабановіч, Н. А. Саўка, Е. А. Іванчык.

З пачатку маёй дзейнасці ў якасці сацыяльнага педагога прайшло нямнога часу, а новых пытанняў і праблем узнікае ўсё больш і больш. Але жадання і сіл хапае, будзем працаваць.

*-- Дзякуй за размову і поспехаў у працы.*

Гутарыла І. СТРАХАВА.

# ПРАЦА — УСЯМУ АСНОВА

Як ні прыкра канстатаваць, але вёска непазбежна старэе. Добра, калі калгас мае неабходныя матэрыяльныя сродкі і можа задаволіць хоць нейкі дабрабыт жыхароў гаспадаркі. Між тым, сацыяльны статус вёскі пагаршаецца з кожным годам. Рэдкасцю становяцца для аддаленых вёсак маршрутныя аўтобусы. У вёску Лукашын, куды і прывяла нас журналісцкая цікаўнасць, ехаць напрасткі, хоць і на УАЗіку, адгаварылі. Таму мусілі даваць добры круг, каб патрапіць да фермера А. М. Лагуты. Шчыра, не надта прыемна было ехаць па калдобінах ад цэнтра калгаса імя Калініна да вёскі Волца. А вось едучы ад вёскі Волца да Лукашына, мы адразу адчулі, што некалі тут хадзілі вялікагрузныя аўтамабілі з гравіем. Заўжды ж так: вяршкі сабралі, а пасля -- хоць патоп. Аўтатранспарт сюды даволі рэдка ходзіць, а дальнабачныя лукашынцы ездзяць пераважна на санях.

На водшыбе вёскі Лукашын, якая суцэльнай паласой працягнулася абапал дарогі, і размясціліся фермерскія ўгоддзі Аляксея Мікалаевіча Лагуты. Першае, што кінулася ў вочы -- старэнькая хатка, дзе і жыве фермер са сваёй сям'ёй, і нядаўна збудаваны больш-менш ладны хлеў. З першых слоў размовы адчуваўся аптымізм гаспадара і яго вялікае жаданне працаваць самааддана і з душой на зямлі. Бо нават з добрага дзесятка вясковых жыхароў наўрад хто адважыцца ўзяць зямлю ў арэнду і працаваць толькі сям'ёй. Ніякіх значных грашовых паступленняў ад свайго гаспадарання на зямлі за год ён пакуль не меў увогуле, але не расчараваўся, не кідаецца ў адчай. Як сёння памятае ён і яго родныя той дзень, калі рашэннем райвыканкама было яму выдзелена 10 гектараў зямлі. Але, па яго словах, запозна, не змог засеяць азімымі. Рэгіструючы фермерскую гаспадарку, цвёрда вызначыў напрамкі дзейнасці: земляробства і жывёлагадоўля. На вялікае не замахваецца, бо ведае цяжкую сялянскую працу, сам з вёскі Зарэчча. «Тое, што намеціў, па сілах мне і маёй сям'і...».

Сама сям'я, як і фермерская гаспадарка, на шляху станаўлення і росту. Сыны яго яшчэ ў школу не ходзяць, але па-гаспадарску руплівыя, дапамагаюць насычы бульбы і нарэзаць буракоў. Старэйшаму Колі — 6 гадоў, а малодшаму Мішы — пяць. Іх справа -- пакарміць сваю гаспадарку: некалькі трусоў, катоў і сабак.

Перспектыва аказацца на водшыбе жыцця, на мяжы існавання яго не палохае. Цвярозая сялянская разважлівасць і ўпартасць, а ў цэлым рысы яго характару — працалюбства і надзея, не астаўляюць нават сумневу для гэтага.

Ужо сёння Аляксей Мікалаевіч гаворыць, што зацягнуў з гэтай задумай. Найбольш спрыяльны для станаўлення фермерства быў пачатак 90-х гадоў. Праўда, нейкія пэўныя зрухі ў станаўленні фермерскай гаспадаркі ёсць. Цікавіцца яго працай і кіраўніцтва раёна. Заязджаў намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання І. М. Шыш. Да таго ж , указам Прэзідэнта краіны зменшана працэнтная стаўка па льготнаму крэдыту фермерам з трыццаці да дваццаці працэнтаў. Каб часткова пагасіць крэдыт у дваццаць мільёнаў, які браў у банку, давялося прадаць аднаго каня. І хоць сам шафёр і трактарыст, і ёсць багаты працоўны стаж з 1976 года, ніводнай з сельгасмашын у сваёй гаспадаркі не мае. Але асабліва зацягваць з пакупкай так неабходнай тэхнікі не думае. Той жа крэдыт у красавіку—маі разышоўся на пакупку маладняку буйной рагатай жывёлы ў насельніцтва. Але ўжо нейкія прыбыткі дае жывёла, сёлета пасеяў і азімыя, таму наступны год абяцае быць больш плённым у гаспадаранні...

Міжволі падумалася: чаму ж гэта чалавек вырашыў змяніць прывычны ўклад жыцця? Меў працу ў калгасе імя Калініна, добрую хаціну ў Зарэччы, сваімі рукамі нават лазню на падворку збудаваў, але ўсё гэта мяркуе прадаць. Таму наступным і было пытанне: *"Якая прычына выхаду з калгасу, адасобіцца і ўзяць зямлю?"*

— Абудзілася сумленне, цвёрдае жаданне самастойна працаваць на зямлі. У бацькі ў свой час было 15 гектараў, а пасля і ён працаваў у калгасе «Шлях Ільіча». Вось я і вырашыў паспрабаваць, што з гэтага атрымаецца... У мае купіў хатку. Калі складаў фермерскую праграму, то планаваў перабудаваць на выдзеленую зямлю за тры гады, а перайшоў пастаянна жыць і працаваць ужо праз паўгода. Станаўленне ідзе не без дапамогі кіраўніцтва раёна. У мінулым годзе зменены слупы і сюды праведзена сілавая лінія электраперадач. Лепшай жадае быць і дарога. Хацелася б правесці тэлефон, заяву напісаў, але калі праведуць — невядома. У Малюшычах ёсць свабодныя нумары, але пакуль задорага. Больш трэба думаць пра неабходнае, трактар трэба прыдбаць, калі ўсур'ёз фермерствам займацца. Другое — гэта будоўля. Толькі склаў хлеў. Яшчэ неабходна гумно, бо сена захоўваю ў стозе. Не па гаспадарску. Пакуль адбудуешся, то сіл на працу амаль не стае, адрываешся ад работы. А жывёла патрабуе догляду...»

У гэтым яму дапамагае жонка Святлана Міхайлаўна, якая раней працавала ў клубе вёскі Волца, а пасля дэкрэтнага водпуску стала працаваць разам з мужам на гаспадарцы.

*— Якую фермерскую гаспадарку Аляксей Мікалаевіч хоча мець у будучым?*

— Сама мала -- чатыры каровы, маладняк падгадаваўшы здаваць на мяса, авечак галоў з дзесятак, дзве свінаматкі, конь. На большае не размахваюся, бо не выцягну на дзесяці гектарах, з якіх ужо зараз пяць гектараў ідзе пад сенакос, тры — пашавыя ўгоддзі, паўтара гектара было занята пад яравымі — ячменем і аўсом. Узяў дзесьці па 30 цэнтнераў "на круг". З цягам часу, калі абжывуся, буду пісаць, каб выдаткавалі яшчэ гектараў з пяць.

Разам з хатай выкупіў таксама кавалак зямлі. Хату буду будаваць абавязкова. Дзеці хутка ў школу пойдуць. Школы побач няма, таму будуць хадзіць за 2,5 кіламетры ў вёску Машэвічы.

Сям'я задаволена і хоць адчуваюць усё ж нейкую неўладкаванасць, на жыццё не скардзяцца. А за аснову ўзята земляробства і жывёлагадоўля таму, бо толькі ў гэтым цесным узаемадзеянні адна галіна спрыяльна дапаўняе другую. З боку мясцовага калгаса імя Калініна -- ніякай падтрымкі, а вось старшыня суседняга калгаса "Сцяг перамогі" -- С. М. Барыскін дапамагаў камбайнам убраць збожжавыя, хоць як і звычайна ў апошнюю чаргу.

"Вось так, сам і заатэхнік, і ветурач, і даглядчык... Але даходзіць і да кур'ёзаў: падаў дакументы на рэгістрацыю, а мінімальны статутны фонд вызначаны ў 10 мільёнаў рублёў. Ён абавязковы, а калі шчыра, то ў мяне зберажэнняў толькі паўтара мільёны рублёў. Я ж і так на крэдытах сяджу. Прадаваць карову і ўносіць статутны фонд не збіраюся. Першыя тры гады вызвалены ад падаткаў, а далей што будзе -- не ведаю... Спадзяюся, што калі не будзе вось такіх недарэчнасцей, абжыцца і да сваіх дзяцей данесці стваральнасць і прэстыжнасць працы на зямлі". Як вынікае з размовы з фермерам А. М. Лагутам перашкода на шляху адраджэння вёскі і статуса працы земляроба не толькі ў эканамічных цяжкасцях, але больш у псіхалагічных.

Галоўнае, чаму неабходна вучыцца ўсім у новых умовах гаспадарання—гэта магчымасці браць на сябе нейкія абавязкі і адказваць...

П. ЖЭБРАК.



***НА ЗДЫМКУ:*** *сям'я фермера А. М. Лагуты з вёскі Лукашын.*

Фота Л. ЛЕЙКІ.

